*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 11 (697) 23 САКАВІКА 2005 г.

## 25 сакавіка - Дзень Волі

**Мы выйдзем шчыльнымі радамі**
**На вольны родны свой простор,**
**Хай воля вечна будзе з намі,**
**А гвалту мы дамо адпор!**

**Няхай жыве магутны смелы**
**Наш беларускі родны дух.**
**Штандар наш бел-чырвона-белы,**
**Пакрый сабой народны рух!**

**На бой за шчасце і за волю**
**Народу слаўнага свайго!**
**Браты, цярпелі мы даволі,**
**На бой усе да аднаго!**

**Імя і сілу беларуса**
**Няхай пачуе й бачыць той,**
**Хто смее нам нясці прымусы**
**І першым выкліча на бой!**

**Браты, да шчасця мы падходзім.**
**Хай гром грыміць яшчэ мацней,**
**Ў крывавых муках мы народзім**
**Жыццё рэспублікі сваё.**

**Няхай жыве магутны смелы**
**Наш беларускі родны дух.**
**Штандар наш бел-чырвона-белы,**
**Пакрый сабой народны рух!**




## *Дарагія сябры!*

Таварыства Беларускай Культуры ў Літве віншуе Вас і сяброў аднадумцаў з вялікім святам беларускага народу – Днём Волі.

Беларускія патрыёты, раскіданыя па ўсіх краінах планеты, будуць заўсёды адзначаць гэтую дату. Сваімі ўчынкамі спрычыняцца да таго, каб яно належным чынам адзначалося ў нашай, пакуль не свабоднай і не дэмакратычнай Бацькаўшчыне Беларусі.

*З павагай старшыня ТБК Х. Нюнька.*

**МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
**Упраўленне агульнай сярэдняй адукацыі**
АКПА 00027626 вул. Савецкая, 9
220010, г. Мінск, тэл. 226 51 59
факс (017) 200 84 83

**МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**
**Управление общего среднего образования**
ОКПО 00027626 ул. Советская, 9
220010, г. Минск, тел. 222 68 48

*E-mail:* root@minedu.unibel.by

14.03.2005 № 06-13/686
На № 22 ат 16.02.2005

**Грамадскае аб'яднанне**
**"Таварыства беларускай мовы**
**імя Францішка Скарыны"**

У сувязі з Вашым запытам упраўленне агульнай сярэдняй адукацыі паведамляе наступнае.

У 2004/2005 навучальным годзе ў Рэспубліцы Беларусь функцыянуюць 4104 агульнаадукацыйныя школы. З іх агульнай колькасці ў 2428(59,2%) – агульнаадукацыйных школах навучальна-выхаваўчы працэс ажыццяўляецца на беларускай мове, у 1366 (33,3%) – на рускай, у 307 (7,5%) – на дзвюх мовах (беларускай і рускай).

Ва ўсіх тыпах устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, навучаецца 1264530 вучняў, у тым ліку, на беларускай мове – 301250 (23,8%), на рускай – 962549 (76,1%), на польскай – 656 (0,1%), на літоўскай 75 вучняў.

Звесткі ў разрэзе абласцей:

| | На беларускай | % | На рускай | % | На польскай | % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| г. Менск | 8559 | 4,2 | 193015 | 95.7 | 30 | 0.0 |
| Берэсцейская | 53964 | 26,4 | 150410 | 73,6 | 41 | 0,0 |
| Віцебская | 34711 | 21,5 | 126624 | 78,5 | 0 | 0,0 |
| Гомельская | 37345 | 18,6 | 163384 | 81,4 | 0 | 0,0 |
| Гарадзенская | 53721 | 35.2 | 98435 | 64,4 | 585 | 0,4 |
| Менская | 81960 | 42,6 | 110600 | 57,4 | 0 | 0,0 |
| Магілёўская | 30641 | 20,5 | 119095 | 79,5 | 0 | 0,0 |

**Начальнік упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі – У. К. Шчэрба.**

## *Хрыстос з мёртвых паўстаў*




## Валянціну Ермаловічу – 80



У гэтыя дні споўнілася б 80 гадоў Валянціну Ермаловічу, самааддананаму змагару за беларускае нацыянальнае адраджэнне, актыўнаму сябру ТБМ, брату слыннага беларускага гісторыка Міколы Ермаловіча.

Валянцін Ермаловіч - сын, расстралянага пры Сталіне беларускага селяніна, у 1988 годзе стаў першым старшынём Магілёўскай філіі гістарычна-асветніцкага Таварыства памяці ахвяр сталінізму "Мартыралог Беларусі", ачоліўшы тым самым увесь шэраг дзеячоў беларускага нацыянальнага адраджэння Магілёўшчыны. Ён лічыў, што спіс ахвяр сталінізму павінен пачынацца з беларускай мовы.

*(Пра В. Ермаловіча чытайце на ст. 4.)*

## ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

*Падрыхтавала Ірына Марачкіна*

*(Працяг. Пач. у пап. нум.)*

**2004 год.**

**25 лютага.**

ЖРЭА Партызанскага раёна падпісала дамову з Таварыствам на арэнду сядзібы па вул. Румянцава, 13 да 31 сакавіка 2004 г.

Агульны сход Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ звярнуўся да выкладчыкаў ВНУ з заклікам актыўней выкарыстоўваць беларускую мову ва ўсіх формах практычнай, выкладчыцкай і навучальнай дзейнасці.

Беларуская чыгунка звярнулася ў ТБМ з просьбай спыніць звароты грамадзян і паведаміла пра выпраўленне становішча з выкарыстаннем беларускай мовы ў справаводстве, афармленні дакументаў, канвертаў, у абвестках станцый і інфармацыі ў электрацягніках.

Сакратарыят звярнуўся да ўладных структураў і грамадзян краіны з прапановай захаваць часопіс "Бярозка", над якім навісла пагроза ліквідацыі. Зварот "Бярозка ў небяспецы" быў надрукаваны ў СМІ.

**3 сакавіка.**

На запыт ТБМ ААТ "Ашчадны банк Беларусьбанк" паведаміў, што займаецца перакладам дакументаў на беларускую мову.

**14 сакавіка.**

Сакратарыят прыняў зварот да грамадзян "Абаронім дом літаратара" з нагоды наступу ўладных структураў на Саюз беларускіх пісьменнікаў.

**15 сакавіка.**

Атрымана афіцыйнае паведамленне КУП "Менскі гарадскі цэнтр нерухомасць") Менскага гарвыканкама аб перазаключэнні дамовы на арэнду памяшкання тэрмінам да 4 лютага 2005 г.

Па просьбе кіраўніцтва Беларускай чыгункі сакратарыят ТБМ зрабіў пераклад неабходных дакументаў і паведамленняў на беларускую мову. Пераклад беларускіх назваў узгоднены з Інстытутам мовазнаўства НАН Беларусі.

**31 сакавіка.**

Віцебская абласная рада ТБМ звярнулася да ўсіх, каму дарагое імя Васіля Быкава, з просьбай зрабіць грашовыя ахвяраванні на ўшанаванне ягонай памяці.

**15 красавіка.**

Слуцкая гарадская арганізацыя ТБМ зарэгістравана ў гарвыканкаме.

*(Працяг у наст. нумары.)*

# ГРАМАТЫЧНАЯ СХІЗМА

18 верасня 2004 г. гучала перадача «Радыё Свабоды» на тэму правапісу, з удзелам З. Саўкі і А. Трусава. Прыемна было пачуць, што старшыня ТБМ рацыянальна разважае, але здзівіла, што пры гэтым ён не ставіў пад пытанне ўласна рэстаўрацыю правапісу Тарашкевіча. Наадварот, абодва госці праграмы досыць дружна выказвалі, што «вось памяняецца ўлада, тады адразу, ці дзяржаўнай камісіяй, ці яшчэ як, увядзецца клясычны правапіс». Генеральная лінія у залаты век, дый годзе.

Не сакрэт, рэстаўрацыя правапісу Тарашкевіча даўно сталася «сымбалем веры» для часткі нашых адраджэнцаў. (У скрайнасці нават так, што «супраць тарашкевіцы = супраць беларушчыны».) Але, ці дапушчальная «рэлігійнасць» у такім важным **для ўсіх** пытанні? Ці існуюць **рацыянальныя** аргументы **за** рэстаўрацыю?

**«Тарашкевіца»** — «самы беларускі» правапіс? Вось што казаў Я.Лёсік: «**Правапіс Б.Тарашкевіча вышаў у сьвет у канцы 1918 г. Да таго часу кожны пісаў, як умеў або як каму падабалася.** Гэта ўсіх мучыла, і за правапіс Тарашкевіча ўхваціліся, як за паратунак, прыняўшы яго на веру, без ніякай крытыкі. Так правапіс Тарашкевіча стаў **правапісам беларускім**.» [падкрэслені Я. Лёсіка – **Ю.Т.**] Ён жа: «...ніякае «доўгае практыкі нашага пісьменства» ў нас ня было, ...гэтая практыка вельмі кароткая і вызначаецца шырокаю рознастайнасьцю ў сваім правапісу, бо да граматыкі Тарашкевіча ніякага правапісу ня было, і кожны пісаў так, як хацеў, як яму здавалася лепш і прыгажэй, толькі ў практыцы «Нашае Нівы» можна заўважыць сякія-такія нормы, прычым гэтыя нормы зусім нязгодныя з нормамі ў правапісу Тарашкевіча... Што да правапіснай практыкі ў іншых выданьнях, то яна яшчэ горшая для Тарашкевіча. Там пісалі або расійскім этымолёгічным пісьмом з яцямі і цьвёрдымі знакамі, або з поўным аканьнем... Практыка даўнейшага нашага пісьменства ні да чога не прымушала Тарашкевіча...» Зразумела, што тут пад «доўгай практыкай нашага пісьменства» Я.Лёсік разумеў свой час, пачатак XX ст. Да XVII ст. у нас **існавала** старажытная і заслужаная практыка пісьменства, але, здаецца, Тарашкевіч яе і не браў пад увагу – асабліва зразумела, зважаючы на час і месца. Але і так, як у С. Некрашэвіча: «**Гістарычнай заслугай Б.Тарашкевіча зьяўляецца якраз тое, што ў сваёй кароткай граматыцы, пабудаванай на апошніх** вывадах прац акадэмікаў Е.Карскага і А.Шахматава, ён удала вылажыў **асноўныя** законы беларускай літаратурнай мовы і даў **важнейшыя** правілы правапісу гэтай мовы.» [падкрэслена аўтарам – **Ю.Т.**]

**«Наркамаўка»** — «антыбеларускі» правапіс? Спрэчна. У 1933 г. (і ў пазнейшых дадатковых рэформах) **аб'ектыўна не ўводзілі** нейкага адмыслова небеларускага правапісу. Калі не лічыць добра вядомых дадаткаў "дзеля набліжэння", у аснове «наркамаўкі» – тая ж «тарашкевіца», а таксама, – і гэта заўжды абмінаюць рупліўцы «вяртання»! — змены, за якія раней выступалі цалкам аўтарытэтныя дзеячы Першага Адраджэння. Напрыклад, Я. Лёсік і Ластоўскі прапаноўвалі скасаваць пісанне мяккага знаку менавіта ў падваенных мяккіх зычных і ў злучэннях «з», «с», «ц» з мяккімі зычнымі. Некрашэвіч прапаноўваў не пераводзіць ненаціскнае «е» у «я» апроч першага складу перад націскам, заўжды пісаць праз «е» асобныя «не» і «без». Я. Лёсік прапаноўваў абсалютызаваць «аканне» (хоць і не ўведзена цалкам, але і «конфэрэнцыя», «сэкратар», як у сапраўднай «тарашкевіцы»!, не пішам). То, мо', не такою неабгрунтаванай была пастанова 1933 г.?! Мо', правапіс і не трэба «вяртаць», бо ён не сыходзіў?!

Наогул, у час Першага Адраджэння недасканаласць, неадэкватнасць (часам – і выпадковасць) першага правапісу, патрэбу зменаў прызнавалі практычна ўсе. Найперш — сам Тарашкевіч (гл., напр., прадмову да папулярнага рэпрынту 5-га выдання «Граматыкі»). Ужо праз восем гадоў існавання першага правапісу дзеля яго ўдасканалення збіралі акадэмічную канферэнцыю (Менск, 1926 г.) Загадкавае, невытлумачальнае з рацыянальнага пункту гледжання, ператварэнне першай спробы ў «клясычнасць» адбылося ўжо ў нашыя дні. Прычым «клясыкай» (а значыць, недатыкальным) лічаць не ўвесь колішні правапіс, а толькі тэзісы пра «як чуецца, так і пішацца», «мяккі знак», «асымілятыўная мяккасць» (і, адначасна, «цвёрдасць).

**«Як чуецца, так і пішацца».** Найперш, далёка не ўсё пішацца так, як чуецца. Зычныя мы запісваем этымалагічна (значыць, пішам так, як належыць, а не так, як чуем). Далей, моўная традыцыя развіваецца, гучанні мяняюцца. Ці варта наогул граматыка абсалютнай фанетычнасцю (або «фанатычнасцю», як некалі жартам «завастрыў» праф. Бузук)? Часцей за ўсё яе можна сустрэць у нованароджаных правапісах, складзеных пазаўчора залётным місіянерам. Для такой даўняй традыцыі пісьменства, як наша, гэта нават неяк непрыстойна.

**«Мяккі знак».** В. Ластоўскі: «...Незразумелым таксама зьяўляецца мякчэньне гукаў «з», «с», «ц» перад мяккімі зычнымі «ь», дзе гэтыя гукі мякчацца самі сабой па закону ўпадабленьня без ужываньня пасьля іх «ь»... Гэтае мякчэньне паказаных гукаў ёсьць, пэўна, вынікам уплыву польскага правапісу з яго спэцыяльнымі асобнымі літарамі *«æ», «œ», «Ÿ»*...» Іначай кажучы, у кожнай граматыцы свету існуюць **правілы вымаўлення**. Без іх не абыйдземся і мы. Пісаць дадатковыя літары **толькі** дзеля вымушвання правільнага вымаўлення – абсурд.

**«Асымілятыўная мяккасць».** Я. Лёсік: "...гістарычны правапіс з канечнай няўхільнасьцю абарачаецца ў штучны, трудны і недаступны шырокім народным масам, бо гукі, як і ўсе іншыя факты мовы, нясупынна зьмяняюцца, і тыя літары, што азначалі некалі пэўныя гукі, перастаюць служыць свайму назначэньню, бо на месцы старых гукаў нарадзіліся новыя, а значэньне літар засталося старое..." Дарэчы нагадаць, што на менскай канферэнцыі 1926 г. цалкам сур'ёзна абмяркоўвалі замену «я»-«е»-«ё»-«ю» на «ја»-«јэ»-«јо»-«ју», як на больш адпаведныя беларускаму вымаўленню (Я.Лёсік, В. Ластоўскі). Магчыма, калісьці «мяккія» асіміляцыі былі адпаведнымі – **у тым дыялекце, дзеля нешматлікіх** асіміляваных словаў. А ў наш час яны нічым не лепшыя за «цвёрдыя».

Дзівіць і тое, як «мяккасць» і «мілагучнасць» мірацца ў «клясыцыстаў» з «цвёрдасцямі» на «ы» і «э». «Цвёрдасці» прынцыпова цяжэй вымаўляць (скажыце хутка: «унівэрсытэт», «сымэтрычны», пачытайце рэпрынт 5-га выдання Тарашкевіча, паслухайце «Радыё Свабода»). «Цвёрдасці», нарэшце, не лепшыя і дзеля перадачы замежнага гучання.

Калі хто не цалкам зразумеў пра перадачу замежнага гучання: на свеце існуюць **мноствы** варыянтаў вымаўлення такіх самых гукаў. Займаючы словы (зараз мы кажам пра галосныя), мы зводзім усю гаму магчымасцяў да 10-ці (практычна да 2+4х2), і дадаткова ўводзім «аканне» (мінус 2). Значыць, кампрамісы тут непазбежныя, і казаць пра нейкую «большую» **адпаведнасць гучання** таго ці іншага варыянта («і» або «ы», «я» або «а») проста **смешна**! Праўда, існуе яшчэ і моўная традыцыя, на якую ўсе спасылаюцца (і якую кожны выкручвае, як хоча). Але моўная традыцыя (асабліва наша) не ўсемагутная. Калі ж спрабуецца яе «прагназаванне», то пачынаюцца цяжкія праблемы. (Прыклад — «праект правапісу» у «Спадчыне» 1995 г.)

Наогул, тое, што сучасны правапіс значна прасцейшы і рацыянальнейшы, або цалкам ігнаруецца, або прынцыпова абмінаецца як «неістотнае». Дарэмна і неразумна, марнаванне важнага рэсурсу.

. . .

Кажуць, «наркамаўка» — «сымбаль таталітарнага рэжыму»? Што ж, «тарашкевіца» — таксама! Тарашкевіч склаў першы беларускі правапіс нашага часу ў 1918 годзе, у Петраградзе, працуючы ў Белнацкаме, які быў аддзелам Народнага Камісарыяту па справах нацыянальнасцяў РСФСР. **Народным камісарыятам кіраваў Сталін, агульнае кіраўніцтва ажыццяўляў Ленін. Якія дырэктывы мог атрымліваць Тарашкевіч у час падрыхтоўкі правапісу?** Ці мусіў ен «аддаляцца» ад рускай-пралетарска-інтэрнацыянальнай мовы, ці наадварот? Не забудзьма, Белнацкам супрацьстаяў «буржуазна-нацыяналістычнай» БНР, а правапіс Тарашкевіча быў (1919-1933) афіцыйным не абы-дзе, а ў БССР. Ёсць падставы празваць гэты правапіс «наЦкАмаўкай»?

Наогул, усё «вяртанне клясычнага правапісу» выглядае больш так, што робяць абы-насупор «наркамаўцы» («камуністам», «рускім»). Дзе было «мякка» - зрабілі «цвёрда», дзе «цвёрда» - «мякка». Дзе быў «бізантыйскі» спосаб перадачы грэцкіх словаў — зрабілі «заходні». Сам чуў аргументацыю кшталту «зробім больш непадобна, і русіфікацыя пойдзе цяжэй», «вернемся ва ўлонне Эўропы». І смех, і грэх. Што атрымліваецца напэўна, дык чарговая схізма, раскол. І пэўна, што ані беларуская мова, ані беларуская нацыя ад гэтага не выйграюць. І мы, пэўна, ніколі не даведаемся, якія палітычныя махінацыі адбываліся вакол гэтай ідэі ў перыяд «канца 80-х - 90-х гадоў 20-га стагоддзя».

Сучасны стандарт існуе больш за 70 гадоў, створаная не такая ўжо благая беларуская літаратура (неаспрэчныя прыклады — Караткевіч, Быкаў), склалася сякая-такая традыцыя. Сучасны правапіс вывучаюць у школах, згодна з ім працуюць прэса, радыё, тэлебачанне. Яго ведаюць людзі, нарэшце. Непрыемна, што зроблена камуністамі? Дапусцім. Але адыграла і пазітыўную ролю таксама? Так. Трэба паважаць сваё мінулае. Можна спрачацца пра якасці тэкстаў; можна праклінаць падзеі гісторыі; нельга аспрэчыць, што фактычна мова выжыла, жыве, мае гістарычны працяг, — менавіта ў форме стандартнага правапісу, з усёю павагай да нашай дыяспары.

Цвердзіць іншае – значыць, адмаўляцца ад маральнага права на падтрымку тых «80%», хто ў час перапісу назваў мову роднай, або тых «33%», хто карыстаецца мовай штодня. Значыць, аб'ектыўна дадаваць яшчэ адзін фактар падзелу беларускай супольнасці. Зрэшты, у рупліўцаў «вяртання» ёсць дзівосны аргумент (гучаў і ў згаданай перадачы): лічбы, аказваецца, нічога не азначаюць. Вось так. **(Не сакрэт, тады лічбы нічога не азначаюць, калі яны не на карысць, але надта хочацца.) «Важней тое, што кажуць «эліты» (! і чаму ў множным ліку?). «Паны» і «хлопы»?! У эліту не запісваюцца, не самаагалошваюцца, элітнасць не перадаецца праз склад крыві.** Быццё элітаю заслугоўваецца. Не ў апошнюю чаргу — праз адказнасць і кампетэнтнасць. Тым часам з боку нашай нефармальнай наменклатуры чутныя пераважна самахвальства і асана «прагматызму». І ўчынкі ды памеры «вяртаннікаў» больш нагадваюць наркамаў чым нацдэмаў.

(Наогул, чаму патрачана ці то 10, ці то 15 гадоў, але і так друкуюць анкету (НН, 26.08.2004). «каб параіцца з народам» (а лічбы ж нічога не азначаюць? а важная ж адно думка эліты?) Хочаць перакінуць адказнасць за канчатковыя вынікі на «народ» (**і вынікаў галасавання не апублікавалі!**)? Не хапае кампетэнтнасці? Або проста ставіцца задача, якая не мае развязку (накшталт «вечнага рухавіка»)? Схапіцца за галаву ад рэляцыі пра тое, што выданні, якія друкуюць «клясычным» правапісам, «паабяцалі перайсці адразу, як толькі з'явіцца новы тэкст». Без поўнага тэксту. Без уліку вынікаў анкеты. І як жа яны друкаваліся да таго? «Генеральная лінія»!)

Крытыкуючы, належыць прапаноўваць? Прапаную. Прызнаць сучасны правапіс, пакінуць пытанне «вяртання тарашкевіцы». Не ўчыняць новы раскол. Звярнуцца да сапраўды важных праблем беларускай мовы.

***Ю. Тарасевіч.***





# Ідэя беларускай незалежнасці і Дзень Волі

25 сакавіка 1918 г. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску, выконваючы волю Усебеларускага з'езду 1917 года і маючы на гэта ўсе паўнамоцтвы, абвесціла Беларусь вольнай і незалежнай дэмакратычнай рэспублікай. У прынятай на паседжанні Рады БНР Трэцяй Устаўной грамаце было заяўлена: "Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Незалежнай і Вольнай Дзяржавай". Беларускі народ адрадзіў сваю дзяржаўнасць, страчаную ў канцы XVIII ст. у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай і захопу тэрыторыі Беларусі Расійскай імперыяй. Ад 1918 г. дзень 25 сакавіка з'яўляецца нацыянальным святам беларускага народу – Днём Волі, Днём Незалежнасці Беларусі.

Да Дня Волі беларускі нацыянальны рух прайшоў цяжкі шлях змагання спачатку з царскім рэжымам Расійскай імперыі, а потым і з бальшавіцкім.

У пачатку XX стагоддзя ў беларускім адраджэнцкім руху выспявала ідэя беларускай незалежнай дзяржаўнасці. У нашаніўскі перыяд Адраджэння сярод беларускіх дзеячоў у Менску, Петраградзе, гарадах Беларусі яшчэ панавалі аўтанамісцкія погляды на будучыню Беларусі. Пасля зрынання самаўладдзя ў Расіі ў лютым 1917 г. меркавалася палітычная аўтаномія Беларусі ў складзе дэмакратычнай Расійскай рэспублікі.

Але ўжо ў гэты перыяд у адрэзанай расійска-германскім фронтам ад большай часткі нашай краіны Заходняй Беларусі і яе палітычным цэнтры Вільні, былой сталіцы Беларуска-Літоўскай дзяржавы, у снежні 1915 г. была створана палітычная арганізацыя – Канфедэрацыя Вялікага Княства Літоўскага, якая дамагалася ўтварэння незалежнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы паводле федэратыўнага прынцыпу, з дзвюх частак – беларускай і літоўскай. У Канфедэрацыю ВКЛ увайшлі літоўскія, беларускія, польскія і габрэйскія дзеячы. У Вільні тады ж была створана група "Сувязь Незалежнасці і Непадзельнасці Беларусі" на чале з Вацлавам Ластоўскім. Яна выступала за поўную незалежнасць Беларусі ў яе этнаграфічных метах.

Такім чынам, у Вільні, тагачасным беларускім палітычным асяродку, была ўзнаўлена ідэя незалежнасці Беларусі, ідэя часоў Каліноўскага і папярэдняга перыяду.

Другім палітычным асяродкам беларускага нацыянальнага руху пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. у Расіі стаўся Менск. Беларускія нацыянальныя дзеячы ў Менску спачатку выказваліся за абвяшчэнне Беларускай дэмакратычнай рэспублікі са сваім войскам, але ў складзе Расійскай федэрацыі народаў. Бальшавіцкі пераварот у Петраградзе і саветызацыя Беларусі ў канцы 1917 г. не пакідалі надзеі і на аўтаномны варыянт. Беларусь бальшавікі разглядалі як Заходнюю вобласць Савецкай Расіі, нават без якога-небудзь беларускага кіраўніцтва. Скліканы беларускімі нацыянальнымі сіламі (са згоды прадстаўнікоў Савета народных камісараў у Петраградзе) і дэмакратычна абраны Усебеларускі з'езд у снежні 1917 г. у Менску выказаў ідэю абвяшчэння незалежнай рэспублікі. Аднак бальшавіцкае кіраўніцтва ў Менску на чале з А. Мяснiковым загадала разагнаць з'езд. Незалежніцкія настроі сярод дзеячоў беларускага нацыянальнага руху толькі ўзмацніліся пасля разгону з'езду.

Але Усебеларускі з'езд паспеў абраць Раду, якая стварыла Выканаўчы (Спаўняючы) Камітэт Рады Усебеларускага з'езду. У адпаведны момант ён павінен быў узяць уладу ў Беларусі ў свае рукі. Выканаўчы Камітэт быў легальным папярэднікам беларускага ўраду.

Адначасова ў Берасці ішлі мірныя перамовы паміж дэлегацыяй Савецкай Расіі і дэлегацыямі Германіі і яе саюзнікаў у Першай сусветнай вайне. Савецкая дэлегацыя сарвала мірныя перагаворы, спадзеючыся на камуністычныя рэвалюцыі ў Германіі і іншых краінах Еўропы, і 18 лютага 1918 г. нямецкія войскі пачалі наступ на ўсход. 19 лютага бальшавіцкае кіраўніцтва пакінула Менск і перабралася ў Смаленск. Пасля ўцёкаў бальшавікоў і перад прыходам нямецкіх войскаў Выканаўчы Камітэт Рады выйшаў з падполля і стаўся лагальным органам улады ў Беларусі. 21 лютага 1918 г. ён выдаў Першую Устаўную Грамату да народаў Беларусі, у якой абвесціў сябе "часовай уладай на Беларусі для кіравання краем і склікання, як мага хутчэй Усебеларускага Устаноўчага Сойму". Выканаўчы Камітэт стварыў Народны Сакратарыят Беларусі на чале з Язэпам Варонкам і перадаў яму выканаўчую ўладу ў краіне.

Нямецкія войскі, перад якімі не было перашкод, бо рэшткі расійскіх войск уцякалі ад іх без баёў, занялі Менск і амаль усю тэрыторыю Беларусі. Неўзабаве, 3 сакавіка 1918 г. быў заключаны Берасцейскі мір паміж Расіяй і Германіяй з яе саюзнікамі. Паводле дагавору Расія адмаўлялася ад часткі тэрыторыі Беларусі па лініі Дзвінск (Даўгаўпілс) – Свянцяны- Ліда-Пружаны-Берасце. Астатняя тэрыторыя Беларусі лічылася расійскай, але заставалася пад нямецкай акупацыяй да моманту выплаты Расіяй Германіі вялікай кантрыбуцыі. Такім чынам, тэрыторыя Беларусі станавілася закладам у дачыненнях паміж Расіяй і Германіяй. Пасля падпісання Берасцейскага мірнага дагавору незалежніцкія настроі ў Беларусі яшчэ больш узмацніліся.

Нямецкія акупанты, заняўшы Менск, забралі грашовую касу Народнага Сакратарыяту і скінулі з яго будынка на Пляцы Волі (Плошчы Свабоды) беларускі бела-чырвона-белы сцяг.

Нягледзячы на гэта, ва ўмовах нямецкай акупацыі амаль усёй тэрыторыі Беларусі (за выключэннем Віцебска, усходняй часткі Магілёўскай і Смаленскай губерні) Рада і Выканаўчы Камітэт Рады працягвалі дзейнасць, прычым асабліва актыўна ў галіне адукацыі, культуры, сацыяльных спраў і кіравання, бо акупацыйныя ўлады ва ўнутраныя справы ў краіне не здольныя былі ўмешвацца, бо Германія працягвала напружаную барацьбу з арміямі дзяржаў Антанты на розных франтах у Еўропе. Таму органы беларускай дзяржаўнасці намагаліся ўзяць на сябе як магчыма больш улады на месцах.

9 сакавіка 1918 г. Выканаўчы (Спаўняючы) Камітэт Рады выдаў Другую Устаўную Грамату. Гэтым актам абвяшчаўся канстытуцыйны лад Беларусі як дэмакратычнай парламенцкай рэспублікі, якая стала называцца Беларускай Народнай Рэспублікай. Да склікання Устаноўчага Сойму заканадаўчая ўлада заставалася ў руках Рады, а выканаўчая і адміністрацыйная – у руках Народнага сакратарыяту. Грамадзянам Беларускай Народнай Рэспублікі гарантаваліся ўсе правы: сходаў, штрайкаў, грамадскіх аб'яднанняў, вольнасць сумлення, недатыкальнасць асобы і жытла.

18 сакавіка 1918 г. Рада Усебеларускага з'езду была пераўтворана ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі як яе вышэйшы заканадаўчы орган.

Германія і яе хаўруснікі, зыходзячы з умоваў Берасцейскага міру з Савецкай Расіяй, не прызналі БНР.

Беларускім нацыянальным дзеячам прыйшлося ў гэтых абставінах дзейнічаць рашуча ў барацьбе за незалежнасць краіны.

24 сакавіка 1918 г. а 8-й гадзіне ўвечары пачалося пленарнае паседжанне Рады БНР. Па прапанове Антона Луцкевіча, які прадстаўляў у Радзе БНР Віленскую Беларускую Раду, і фракцыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады, ад якой з дакладам "Палітычнае становішча Беларусі" выступіў старшыня фракцыі БСГ Аркадзь Смоліч, на абмеркаванне Рады БНР была вынесена пастанова прыняць Грамату з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі.

Пачаліся доўгія і бурныя спрэчкі, якія цягнуліся ўсю ноч. А 8-й гадзіне раніцы 25 сакавіка 1918 года большасцю галасоў сябраў Рады БНР была прыпята Трэцяя Устаўная грамата з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі. Супраць прыняцця граматы (а значыць, і незалежнасці Беларусі) прагаласавалі прадстаўнікі земстваў і гарадскіх думаў (з рускамоўнай інтэлігенцыі) і яўрэйскай сацыялістычнай партыі Бунд. Пасля прыняцця Трэцяй Устаўной граматы яны выйшлі са складу Рады БНР. Сябры Аб'яднанай яўрэйскай сацыялістычнай партыі і расійскія эсэры ў складзе Рады ад галасавання ўстрымаліся.

Трэцяя Устаўная грамата абвяшчала Беларусь "незалежнай і вольнай дзяржавай". У тэксце граматы гаварылася: "На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя сувязі, якія далі магчымасць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь, кантракт, што забівае на смерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі".

У тэксце граматы гаварылася: "Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Незалежнай і Вольнай Дзяржавай". Берасцейская мірная дамова не прызнавалася Беларускай дзяржавай. У дзяржаўным акце 25 сакавіка былі зацверджаныя ўсе тыя правы і вольнасці грамадзян Беларусі, якія абвяшчаліся яшчэ Другой Устаўной граматай. Была вызначана і тэрыторыя Беларускай Народнай Рэспублікі, якая ўключала землі, "дзе жыве і мае лічбовую перавагу беларускі народ, а ўласне: Магілёўшчыну, беларускія часці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных частак суседніх губерняў, заселеных беларусамі". Аб будучых дзяржаўных сувязях павінны былі вырашаць самі беларусы ў асобе Устаноўчага Сойму.

Такім чынам, абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі самастойнай і незалежнай дзяржавай было юрыдычным актам, які ўзнаўляў дзяржаўнасць беларускага народа, страчаную ў канцы XVIII стагоддзя ў выніку захопу тэрыторыі Беларусі расійскай імперыяй, пра што згадвалася ў тэксце Трэцяй Устаўной граматы. Акт 25 сакавіка 1918 г. быў лагічным наступствам дзейнасці Усебеларускага з'езду ў снежні 1917 г. гэты акт зрабіў цалкам легальнай далейшую дзейнасць Рады БНР і яе ўраду ў 1918 годзе і ў наступны перыяд.

Пазней Рада БНР зацвердзіла дзяржаўную сімволіку Беларусі – старадаўні беларускі герб "Пагоню" і бела-чырвона-белы сцяг, таксама з традыцыяй у некаторых стагоддзях. Гімнам Беларускай Народнай Рэспублікі стаўся гімн на словы Макара Краўцова, музыка Уладзіміра Тэраўскага), які пачынаўся словамі:

*Мы выйдзем*
*шчыльнымі радамі*
*На вольны,*
*родны свой прастор,*
*Хай воля вечна будзе з намі,*
*А гвалту мы дамо адпор!*

Акт 25 сакавіка 1918 г. аб незалежнасці Беларусі меў вельмі вялікае значэнне. Ён перакрэсліў праекты ўтварэння федэрацыі Беларусі з Расіяй (альбо поўнай інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі), федэрацыі Беларусі з Літвой ці з Польшчай. Пачалася барацьба за ажыццяўленне абвешчанай незалежнасці. Умовы былі неспрыяльнымі для Беларусі Большая частка яе была акупавана Германіяй, а ўсходнія часткі былі ў складзе Расійскай савецкай федэрацыі (Заходняя вобласць). Урады Германіі, Аўстра-Венгрыі і Расіі не прызналі незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Урад БНР дзейнічаў у галіне дзяржаўнага будаўніцтва, у прафесіянальна-эканамічнай і культурна-асветнай галінах.

На Беларусі за некалькі месяцаў 1918 г. былі ўтвораны сотні беларускіх школ, а ў буйных гарадах дзейнічалі беларускія гімназіі. Выходзілі дзесяткі беларускіх газет і часопісаў, пачалі дзейнічаць культурна-асветныя гурткі і таварыствы, тэатры. Рыхтавалася адкрыццё Беларускага нацыянальнага універсітэта. У канцы 1918 г., карыстаючыся паразай Германіі ў першай сусветнай вайне, урад Беларускай Народнай Рэспублікі пачаў ствараць вайсковыя адзінкі, аднак да прыходу Чырвонай арміі ў Беларусь у снежні 1918 г. не паспеў разгарнуць іх у Беларускае войска. Толькі ў Гародні быў арганізаваны І-ы Беларускі полк, 2-і фармаваўся ў Вільні.

Ва ўмовах паразы германскай арміі ў 1918 г. з актам 25 сакавіка вымушаныя былі лічыцца і нямецкія акупанты, якія афіцыйна не прызналі БНР, але не здолелі спыніць дзейнасць Рады і ўраду БНР у галіне адукацыі, культуры, сацыяльнай палітыкі і палітычнай дзейнасці ўвогуле. З актам 25 сакавіка лічыліся і іншыя дзяржавы, якія прызналі незалежнасць Беларусі, у тым ліку Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Украіна, Чэхаславакія.

Урэшце і бальшавіцкі ўрад у Маскве вымушаны быў лічыцца з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі. У Маскве ў 1918 г. знаходзіўся генеральны консул БНР у РСФСР Алесь Бурбіс. У лістападзе 1918 г. прадстаўнікі савецкага ўрада Ул. Ульянава-Леніна вялі перамовы ў Маскве са старшынём ураду БНР Антонам Луцкевічам аб прызнанні Расіяй БНР, але потым спынілі перамовы. Урад Леніна прыняў іншы варыянт: пасля адыходу нямецкіх войскаў заняць часткамі Чырвонай арміі тэрыторыю Беларусі для ўсталявання тут савецкай улады, ліквідацыі незалежнасці Беларусі.

Аднак абвяшчэнне незалежнасці БНР 25 сакавіка 1918 г. і тут мела свае наступствы. ЦК Расійскай кампартыі (бальшавікоў) на чале з У. Леніным вымушаны быў улічыць поспехі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху і, са свайго боку, вырашыў 1 студзеня 1919 г. абвясціць, дарэчы на 1 з'ездзе Кампартыі (бальшавікоў) Беларусі, а не на нейкім савецкім урадавым форуме, Беларускую Савецкую Рэспубліку, цалкам залежную ад Масквы, несамастойную, але ўсё ж нацыянальную. Фактычна стваралася марыянетачная савецкая дзяржава з яе папяровым "суверэнітэтам", якая ў 1922 г. стала часткай Савецкага Саюзу. Але існаванне БССР спрыяла росту нацыянальнай самасвядомасці, якая ў 30-х гадах XX ст. жорстка душылася ўладай.

Беларуская нацыянальная ідэя незалежнасці краіны пачала адраджацца з прыняццем Вярхоўным Саветам БССР 12-га склікання 27 ліпеня 1990 г. Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. 25 жніўня 1991 г. Вярхоўны Савет прыняў Закон "Аб наданні статусу канстытуцыйнага Закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі" і 19 верасня 1990 года аб новай назве дзяржавы: Рэспубліка Беларусь.

29 ліпеня 2000 г. Усебеларускі з'езд за незалежнасць, дэлегаты якога былі абраныя ад усіх рэгіёнаў краіны, прыняў Акт незалежнасці. Дэлегаты з'езда абвясцілі незалежнасць краіны "неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа" і прызналі "не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі".

Акт 25 сакавіка 1918 г. з'яўляецца і цяпер сімвалам барацьбы беларусаў за незалежнасць сваёй дзяржавы, супраць інкарпарацыі яе ў склад Расіі (у выглядзе саюзнай дзяржавы ці іншым чынам). Акт 25 сакавіка натхняе на дасягненне годнага статусу беларускай мовы, сапраўднай дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі, узнаўлення спрадвечных нацыянальна-гістарычных сімвалаў – бела-чырвона-белага сцяга і нацыянальнага герба "Пагоня", сімвалаў барацьбы патрыётаў за дэмакратычную краіну, яе росквіт на шляхах Волі. Дзень 25 сакавіка з'яўляецца вялікім святам беларускага народа, як на Бацькаўшчыне, так і ў замежжы.

***Анатоль Грыцкевіч,***
***доктар гістарычных навук, прафесар.***

# Валянціну Ермаловічу – 80

Савецкі Магілёў. Канец лістапада 1988. Група маральнасна ўсклапочаных людзей, здзіраючы з сябе скуру саўковага выхавання і саўковага страху, спрабуе правесці сход па стварэнні філіі гісторыка-асветніцкага Таварыства памяці ахвяр сталінізму "Мартыралог Беларусі". КДБ працуе надзейна – месца і час правядзення сходу ўтаіць не атрымалася. І як толькі група з'яўляецца ў адным з дамоўленых памяшканняў, зараз жа прыходзіць адміністрацыя ўстановы і забараняе правядзенне сходу ў гэтым месцы, выправоджваючы людзей на двор. У другім месцы – тое ж. Упартая група не разыходзіцца і ўсё шукае прыстанішча, з якога можна было б сказаць слова асуджэння сталіншчыне. Але не адстае і "група суправаджэння".

Ужо ў цемры група падыходзіць да культасветнавучальні. І выкладчыца навучальні Т.Раманькова рашаецца на апошні варыянт. Загадзя прыпасеным ключом яна адкрывае дзверы навучальні, запускае групу і імгненна замыкае дзверы з сярэдзіны на завалу. КДБ ўсё ж дало прамашку – гэты варыянт раскрыты не быў і дырэктар навучальні дома бестурботна рыхтаваўся да сну, калі яго патрывожылі званком, загадаўшы тэрмінова ехаць да будынка навучальні. Пакуль безвынікова тузаліся ў фасадныя дзверы, якія надзейна трымала завала, пакуль шукалі ключ ад "чорнага ходу" і мучыліся з заржавелым, даўно не выкарыстаным замком, прайшла амаль гадзіна. Гэтага часу тром дзесяткам людзей хапіла, каб паслухаць гасцей з Менску З.Пазьняка, Э.Ялугіна, А.Белавусава і сваіх выступоўцаў, а затым абвясціць аб стварэнні філіі "Мартыралогу Беларусі" і абраць кіраўнічыя органы.

Рыхтуючы гэты сход, яго арганізатары добра ўсведамлялі, што чалавека, які будзе абраны на пасаду старшыні філіі, чакаюць шмат непрыемных, нават трывожных хвілін ды істотныя праблемы на працы. Таму патрэбен быў чалавек, з аднаго боку, абаронены сякімі-такімі дзяржаўнымі ўзнагародамі ці званнямі (нематываванае звальненне такога з працы як-ніяк выглядае скандальна), а з іншага боку, чалавек псіхічна ўстойлівы і перакананы (да самаахвярнасці!) ў праваце распачатай справы. Т.Раманькова сказала: "Я такога ведаю. Гэта выкладчык нашай навучальні, зараз рэжысёр Краснапольскага народнага тэатра Валянцін Іванавіч Ермаловіч. Яму толькі што прысвоена звание заслужанага дзеяча культуры. А ў трыццатыя гады яго бацька быў арыштаваны і расстраляны."

... Сівы лысаваты чалавек з добрымі і мудрымі вачыма спакойна выслухаў расповед пра новае грамадскае аб'яднанне і нашы аргументы, чаму менавіта яму прапануецца ўзначаліць магілёўскую філію, і крыху падумаўшы сказаў: "Што ж, калі трэба, – я згодны". Сказана гэта было настолькі па-будзённаму проста, што я грэшным чынам падумаў: а ці ж разумее чалавек, на што ён дае згоду?

І вось цяпер, седзячы ў адной з аўдыторый верхняга паверху навучальні без святла, якое не ўключалі, каб тыя, што мітусіліся ля зачыненых дзвярэй, не адразу нас знайшлі, я ўслухоўваўся ў тое, што скажа гэты чалавек. А ён, як падалося мне, прычмурэламу беларусу, казаў не пра тое. Коратка азначыўшы, што задача новага грамадскага стварэння – вярнуць з небыцця імёны людзей, зніклых у жудасным чэраве сталінізму, ён пачаў гаварыць... аб мове.

"Сярод самых жудасных злачынстваў сталінізму – тое, што ён расстраляў нашу родную мову. Вяртанне роднай мовы да жыцця – адна з асноўных задач нашай дзейнасці. Трэба вярнуць мову нашым дзецям. Трэба, каб дзеці ў пачатковай школе навучаліся на роднай мове..."

Пра што ён кажа! – свярбела ў маёй галаве. Вяртанне мовы – патрэбная справа, але ж сёння трэба думаць, як з камунізму выкараскацца, як дамагчыся павагі да людзей іншай думкі, каб ім не трэба было з'язджаць з радзімы ці працірань нары ў вязніцы! Ды й шмат іншых праблем дзяржаўнага ўзроўню ёсць, непараўнальна больш важных, чым праблема вяртання да жыцця роднай мовы...



*В. Ермаловіч (злева) на сустрэчы з грамадскасцю ў абласной бібліятэцы 11 снежня 2003 г. Фота А. Ліціна.*

Разуменне праваты гэтага чалавека прыйшло пазней. Як пазней прыйшло і разуменне прычын яго згоды на пасаду старшыні. Ён не збіраўся займацца арганізацыяй дзейнасці "Мартыралогу", бо проста не меў на гэта часу. Але ён зразумеў, што наіўным энтузіястам новай і досыць рызыкоўнай справы патрэбна прыкрыццё. І ён вырашыў прыкрыць іх сваёй постаццю. Ён ніколі не лічыў гэтае рашэнне нейкім гераізмам і вельмі бянтэжыўся і непакоіўся, калі пра гэта пачыналі неяк узнёсла распавядаць.

Палітыка не была яго жыццём. Яго жыццём быў тэатр. Ён, выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, быў адным з тых, з каго напачатку 50-х гадоў мінулага стагоддзя аднаўляўся Магілёўскі драматычны тэатр. Сыграўшы дзесяткі роляў самага рознага амплуа, ён затым пачаў вучыць гэтай справе навучэнцаў культасветнавучальні (зараз – навучальня культуры). І праз гэта ўзняўся да працы рэжысёрскай. За свой век ён стварыў ці вярнуў да жыцця пяць самадзейных тэатраў, чатыром з якіх прысвоена званне народнага. Пералік пастаўленых ім спектакляў займае ў тэатральнай энцыклапедыі амаль старонку. Пераважнай большасцю гэта спектаклі беларускіх аўтараў і на беларускай мове.

А за дзесяцігадовае і досыць плённае кіраўніцтва Краснапольскім народным тэатрам быў уганараваны званнем заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Гэтаму тэатру ён аддаваўся цалкам, праводзячы значную частку свайго жыцця ў дарозе, бо даводзілася штотыдзень, а калі й два-тры разы на тыдзень ездзіць з Магілёва за сто кіламетраў у Краснаполле, праводзіць там дні і ночы, а потым ехаць назад, каб паспець на заняткі ў навучальню. У Краснаполлі дагэтуль успамінаюць гэтага чалавека з вялікай павагай і цеплынёй.

А потым быў тэатр у Бялынічах, тэатры ў Магілёве. Роля рэжысёра тэатра "Валянцін" пры Магілёўскім гарадскім доме культуры і вольнага часу стала апошняй роляй яго жыцця. У гэтай ролі ён і пакінуў наш свет, не дажыўшы тры месяцы да 80-годдзя.

Нарадзіўся Валянцін Ермаловіч 17 студзеня 1925 года ў сялянскай сям'і з хутара Малыя Навасёлкі пад Койданавам на землях памешчыка Казіміра Каставіцкага, славутага сваім сынам Карусём Каганцом, на тых землях і пахаваным. Ён быў чацвёртым у сям'і Івана Ермаловіча. А другім з тых чатырох быў Мікола, які пазней вызначыўся як дасціпны даследчык старадаўняй беларускай гісторыі. Валянцін вельмі паважаў свайго старэйшага брата, ганарыўся ім, збіраў усе яго кнігі, братавы публікацыі ў друку ці публікацыі аб ім, аб яго навуковай дзейнасці.

Дзяцінства яго наўрад ці можна назваць шчаслівым. Гаспадарка Івана была немалой і досыць спраўнай, і сям'я магла б жыць бязбедна, каб не скваліасць бальшавікоў, што захапілі ўладу і пачалі люта вынішчаць усе зародкі ненавіснага ім капіталізму. Спачатку "кулакоў"-аднаасобнікаў абкладвалі рознымі ўсё большымі і большымі падаткамі, потым – з пачаткам так званай "калектывізацыі" – тых, хто не хацеў "калектывізавацца", пачалі раскулачваць.

Іван Ермаловіч таксама не спяшаўся памяняць хутарскую волю на калгаснае жыццё і на прапанову перасяліцца ў вёску катэгарычна адмовіўся. Але не ведаў, з кім мае справу: аднойчы раніцай прыехалі калгаснікі і садралі дах з хаты. Сям'я вымушана была перасяліцца ў вёску Навасады. А Івана арыштавалі і асудзілі на "дзесяць год без права перапіскі" (сёння ўжо не сакрэт, што гэтымі словамі тады прыкрывалі расстрэл). Далей трох сыноў і дачку гадавала адна маці.

Уражанні яго дзіцячых гадоў так ці інакш маюць палітычныя адценні. Успамінаў, што вяскоўцаў некалькі разоў прымушалі шарэнгамі прачэсваць лясы, так лавілі польскіх шпіёнаў.

А яркім уражаннем ваеннага часу было "завочнае" змаганне фашыстаў з партызанамі за вёску. Партызаны мініравалі падыходы да вёскі. Тады гітлераўцы прымушалі жыхароў вёскі браць валакушы і цягнуць па мінным полі. Коштам некалькіх чалавечых жыццяў поле размініравалася. Так некалькі разоў цягаў валакушу і Валянцін, але пашанцавала. Нарэшце страх перад смерцю ад міны перамог страх перад захопнікамі і сяльчане ўзбунтаваліся: "Няхай цягнуць валакушы тыя жанкі, чые мужы ў партызанах!" На тым мінная вайна і скончылася.

Па вызваленні вёскі Валянцін пайшоў ваяваць. Таксама крычаў "За Радзіму! За Сталіна!"? – пытаюся. "Не, такога не чуў. Беглі ў атаку, сціснуўшы зубы. Не крычалі, а стралялі. Які сэнс там крычаць, калі цябе ўсё адно не пачуюць у тым грукаце."

У бітве ля хутара Чары пад Беластокам быў цяжка паранены. Палічылі забітым – і дадому прыйшла пахаванка "... пал смертью храбрых... похоронен возле хутора Чары..." Але "пахаваны" ўваскрос і вярнуўся дадому. Вярнуўся, каб пражыць яшчэ амаль шэсцьдзесят яркіх гадоў, гадоў, насычаных справамі дзеля роднай Беларусі, клопатам аб яе долі.

З гумарам успамінаў, як паступаў у тэатральна-мастацкі інстытут, куды вельмі хацелася, але была істотная перашкода: не выгаворваў літары "р". Доўга падбіраў тэкст для мастацкага чытання, дзе б не было непрыемнай літары. І ўвесь час трэніраваўся ў яе выгаворванні. На іспытах гэтай заганы не заўважылі, потым выкладчыкі здзіўляліся, як гэтага можна было не заўважыць. Але за пяць інстытуцкіх гадоў літару адолеў.

Потым сам, прымаючы іспыты ў культасветнавучальні, спачуваў коснаязыкім вясковым юнакам. Аднаго з іх запомніў асабліва: на фоне галасістых і добра падрыхтаваных выпускнікоў гарадскіх школ гэты выглядаў нязграбна і збянтэжана. Загадзя падрыхтаваны рускамоўны верш прачытаў зусім невыразна, глытаючы ці скажаючы на беларускі лад словы. Камісія ўжо пераглядвалася, збіраючыся развітацца з хлопцам, бо – "ўсё зразумела". Але Ермаловіч папрасіў пачакаць хвілінку і загаварыў з хлопцам пабеларуску, прапанаваўшы яму расказаць аб вясковым жыцці на сваёй мове. Той ажывіўся, як бы расправіў плечы, і пачаў з такім гумарам распавядаць розныя гісторыі з вясковага жыцця, што члены камісіі замілавана заўсміхаліся. Хлопец быў прыняты ў навучальню. Сёння ж Мікола Макарцоў – галоўны рэжысёр масавых мерапрыемстваў у рэспубліцы, адзін з арганізатараў "Дня беларускага пісьменства і друку".

Памёр Ермаловіч нечакана, як часта бывае ў такіх выпадках, бо, нягледзячы на сталы ўзрост і карагод хваробаў, ён да апошніх дзён вёў актыўнае грамадска карыснае жыццё, не цураючыся палітычнай дзейнасці. Быў сябрам БСДГ і сябрам не "запісным", лічыў сваім абавязкам прысутнічаць на партыйных сходах і часта выказваў на іх канструктыўныя ідэі і прапановы. Пры тэатры "Валянцін" існавала суполка ТБМ, якую ўзначальваў сам рэжысёр. Не аднойчы ён падкрэсліваў публічна, што арганізацыяй тэатра заняўся па даручэнні ТБМ і дзеля пашырэння ўжытку роднай мовы. Настойліва даводзіў і прадстаўнікам мясцовай улады і кіраўнікам грамадскіх аб'яднанняў неабходнасць ушаноўваць памяць знакамітых землякоў. Марыў пры сваім жыцці убачыць на вуліцах Магілёва помнікі Максіму Гарэцкаму і Цішку Гартнаму (месца, дзе пакоіцца косткі З. Жылуновіча было знойдзена ў тым ліку і пры яго ўдзеле). На жаль, не дачакаўся здзяйснення гэтай мары, пакінуўшы яе магілёўцам як запавет.

Упраўленне культуры чамусьці вырашыла не праводзіць афіцыйнай цырымоніі развітання з заслужаным дзеячам. Мо баялiся, што хтосьці прынясе нацыянальны сцяг, каб пакрыць нябожчыка. Пахаванне Васіля Быкава, з якога збег міністр культуры, напужала і ніжэйшых чыноўнікаў. Так дзіўна атрымоўваецца: раней перад гэтым сцягам дрыжэлі ворагі, сёння ж дрыжаць свае басурмане. Пахаванне Валянціна Ермаловіча прайшло ціпла і без нашага сцяга...

Да 80-годдзя В. Ермаловіча ў Магілёве ладзіцца шэраг мерапрыемстваў. Вельмі добра, што ладзяцца яны з ініцыятывы маладых людзей. Значыць, справу яго жыцця будзе каму прадоўжыць.

*Міхась Булавацкі.*

# НАРОДЖАНЫ 25-ГА САКАВІКА
## ці ГАМЛЕТ У ВЫКАНАННІ МАЙКА ТАЙСАНА
(да 70-годдзя Аляксея Рагулі)

**Не люблю пісаць "хвалебныя". Адразу абвастраецца комплекс госця, які спазніўся за святочны стол. "Ну давай, трэба сказаць тост!" – і ўсе вылупляюцца на цябе ў чаканні. Пераварочваючы ў галаве думкі кшталту: "І думаў жа не йсці!". Ты гатовы праваліцца, абы не рабіць "прыемнае" некаму праз сілу. На чужое "трэба" я звычайна адказваю: "Вам трэба – вы і рабіце".**

**"Хачу" – вось першы штуршок да любой добрай справы.**

...З Аляксеем Уладзіміравічам Рагулем я пазнаёміўся, як той казаў, завочна. На ўроках беларускай літаратуры ў 11-ым класе нас паціху рыхтавалі да выпускных і ўступных іспытаў. Большасць гэтак званых "крытык" (падручнік з наборам аналізамаў творчасці літаратараў) была напісана так, што адзіным жаданнем у любога нармальнага школьніка было размаляваць партрэт класіка і забыць гэтую "літаратуру" як страшны сон.

Разумеючы, што з такімі падручнікамі 11-класнікі іспыты, калі не заваляць, то ўсялякае жаданне чытаць беларускую літаратуру назаўжды адаб'юць, Ніла Паўлаўна, мая настаўніца па беларускай мове, прапанавала пашукаць у бібліятэках "Імгненні..." аўтарства нейкага Рагулі.

У гэтай частцы я мусіў бы напісаць, што "кніга была напісана так добра, што аж...". Не. Пачытаўшы некалькі старонак, я проста падумаў: "Хм, у нас ТАК пішуць пра белліт?".

Далей – болей. "Імгненні..." я прачытаў цалкам – што для 11-класніка раўназначна вычыну. А калі на ўступных у педуніверсітэт даведаўся, што ў мяне можа выкладаць Рагуля, зразумеў, што голаў з плеч, а трэба паступіць.

Калі прафесар Рагуля чытае "Уводзіны ў культуралогію" і спрабуе патлумачыць студэнтам тэрмін "культурны шок", яму варта задаваць першакурснікам адно пытанне: "Якія эмоцыі вы перажылі, калі першы раз прыйшлі на лекцыю выкладыка Рагулі?. О-о-о, вось гэта і ёсць культурны шок!"

Уявіце сабе: на сцэне Купалаўскага тэатра Гамлета іграе, м-м-м, ну хай сабе Майк Тайсан. І грае так, як не сыграў бы... Ну, напрыклад, Манаеў (а ягоны геніяльны Зносак самі ведаеце, чаго варты!). Грае, як бог, іншымі словамі.

Першыя ўражанні ад Рагулі і яго лекцый у любога беларускага экс-школьніка прыкладна такія ж. Гэта фантастыка: вы бачыце немаладога чалавека, які цягам 90 хвілін не проста "вяшчае" матэрыял для засваення. ён зараджае 16-17 гадовых нейкай жыватворнай энергіяй. Яго лекцыя – гэта неўтаймаваны танец жыцця і розуму. Рагуля сапраўды штолекцыю дае Веды. Той, хто ў курсе, з якой крывёй дастаюцца Добрыя Веды, зразумее, што я маю на ўвазе. Аляксей Уладзіміравіч, калі хочаце, такі Прамегэй: не проста прафесар, а Вучоны. А гэта значыць – Творца, для якога чарговы прачытаны артыкул, эсэ, кніга – ежа для розуму, фантазіі і нагода падзяліцца радасцю адкрыцця са студэнатмі і калегамі-выкладчыкамі. Таму і лекцыя ў яго – гэта тэатр, дзе вы не можаце быць пасіўным гледачом ці слухачом. Вы альбо паўнапраўны ўдзельнік – альбо чужаніца.

Сам Аляксей Рагуля неаднойчы заўважаў, што ў беларускай сітуацыі Настаўнік часта выконвае не проста ролю культурнага героя, але дэміўрга-стваральніка. Пагадзіцеся: цягам апошніх 20 гадоў займацца фактычна распрацоўкай беларускай школы культуралогіі – у нашых умовах вычын. І я менш за ўсё маю на ўвазе нейкія матэрыяльныя складанасці. Некаторыя "калегі па цэху" дагэтуль не ўпускаюць магчымасць пхнуць яго ў спіну са словамі: "Ну што гэта за такое?", "Якая яшчэ культуралогія, тым больш беларуская?!". А ён ідзе далей: не закрываецца, умее адэкватна глядзець на свет і на навуку. Нават зараз, калі яму споўнілася 70 год.

Не думаю, што быў адзіным, хто казаў Рагулю: "Аляксей Уладзіміравіч, вы хаця б 10% таго, што кажаце, запісвалі б. Вы згубіце пару гадзін, а Беларусь атрымае часцінку скарба". Хаця і тыя веды, якія перадае Рагуля праз свае падручнікі – неацэнны. (Папрасіце у любога настаўніка белліт назваць самыя адэкватныя падручнікі па прадмеце – Рагулеўскія падручнікі зоймуць першае месца).

Занатоўваць і распрацоўваць ідэі Рагулі спрабуюць і ягоныя вучні. Дзякуй Богу, Аляксей Уладзіміравіч выдатны Настаўнік: роўнасць і павага да любога чалавека – гэта тая здаровая талерантнасць, якую Рагуля прывівае ўсім, хто знаходзіцца побач з ім. Зрэшты, знаходзяцца і тыя, хто слухае-слухае, а пасля выдае яго ідэі за свае. Можа, гэта ў нейкім сэнсе і нармальна: геній не можа быць рэччу "ў сабе"?.. Хаця наўрад ці: прафесар Рагуля надта добра ведае, калі трэба браць вучня, а калі – адганяць халуя. І ў гэтым таксама ягоны Талент. Талент Вялікага Выкладчыка, які змяніў свет і не адно пакаленне людзей. Талент Вялікага Выкладчыка, які вучыць жыць так, як хочаш, – не супярэчыўшы свайму "я" і на карысць людзям.



***Сяргей Сахараў,***
***студэнт і аспірант***
***праф. А.У.Рагулі.***

# Крыніцы народных талентаў Любаншчыны невычэрпныя



З 1971 года жыве на Любаншчыне Уладзімір Аляксандравіч Ціханоўскі. Ён працуе акампаніятарам Рачэньскага ДК.

У гэтым жа годзе быў арганізаваны фальклорна-этнаграфічны гурт аўтэнтычнай песні "Шчодрык".

Акрамя "Шчодрыка" сп. Ціханоўскі узначальвае гурт народнай песні "Маладзічкі" (1997) і сямейны гурт "Карані", у які ўваходзяць дочкі кіраўніка Ілона ды Ганна, а таксама яго жонка Тамара. Уладзімір Аляксандравіч з'яўляецца майстрам саломапляцення і сябрам Саюза майстроў народнай творчасці.

У 2003 годзе Ціханоўскі У. А. узнагароджаны прэміяй імя Паўла Шпілеўскага – за асабісты ўклад у справу адраджэння, захавання і развіцця традыцыйнага народнага мастацтва Любаншчыны. З 3-х калектываў, якія ўзначальвае, Ціханоўскі У. А. больш за "ўсё ганарыцца гуртом "Маладзічкі".

***Аляксей Шалахоўскі.***

# ТБМ вырашыла судзіцца з Мінюстам

Паводле рашэння Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", спецыяльна скліканай з гэтай нагоды, прадстаўнікі Таварыства падалі ў Вярхоўны Суд зыск да Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь аб адмене пісьмовага папярэджання, вынесенага Таварыству з-за таго, што частка раённых і першасных арганізацый ТБМ не пакінула юрыдычныя адрасы ў жылым фондзе (у кватэрах шматкватэрных дамоў) і не перайшла на юрыдычныя адрасы ў фонд нежылы.

Кіраўніцтва ТБМ зыходзіць з таго, што паводле Статута ТБМ раённыя арганізацыі самі вызначаюць свой юрыдычны статус, форму рэгістрацыі ці пастаноўкі на ўлік, самі знаходзяць для сябе юрыдычны адрас і самі вырашаюць усе пытанні з мясцовымі органамі ўлады. Статут не прадугледжвае ўмяшання цэнтральных органаў Таварыства ў гэтыя стасункі і не падае механізму гэтага ўмяшання, акрамя выпадкаў парушэння арганізацыяй гэтага самага Статуту. Таму Мінюст, ці мясцовыя органы ўлады ў дадзеным выпадку, павінны прымаць меры да асобных арганізацый ТБМ, але не да Таварыства ў цэлым.

Ну, а што скажа суд?..

***Яраслаў Грынкевіч.***

*Калі за адраджэнне мовы,*
*чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2005 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| | | |
|---|---|---|
| ПВ | месца | літар |

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 4020 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2005 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

